# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№8 (243)
жнівень 2022

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

**У НУМАРЫ:**





# У ЗША АДБЫЛАСЯ 34-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

Падобныя Сустрэчы пачалі ладзіцца беларускай эміграцыяй у ЗША і Канадзе з 1952 года.

Мерапрыемства сабрала беларусаў ад Флорыды да Таронта, якія прыехалі, каб пабачыць адзін аднаго, абмяняцца думкамі і ідэямі.

Арганізатарам падзеі выступіла Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне (BAZA) пры падтрымцы Згуртавання беларусаў Канады. Сустрэча прайшла 3-4 верасня ў Беларускім цэнтры пры саборы Св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі) з удзелам беларускіх ініцыятыў, арганізацый і суполак ЗША і Канады.

Адчыніў Сустрэчу сямейны гурт *Kozak Family Ethno Trio* (Валянціна Пархоменка, Алесь Казак і Вольга Казак-Анлар) выкананнем гімну ЗША і духоўнага гімну Беларусі "Магутны Божа".

Вядоўцамі абодвух дзён Сустрэчы былі Міхась Чаропка і Наталля Федарэнка (BAZA), якія нагадалі, што падобныя Сустрэчы традыцыйна ладзяцца раз на два гады. Але ў выніку пандэміі каранавірусу апошняя адбылася ў 2018 годзе.

Некаторыя з запрошаных на мерапрыемства гасцей не змаглі на ім прысутнічаць асабіста, але даслалі свае звароты да ўдзельнікаў Сустрэчы. Так госці Сустрэчы былі ўсцешаныя праглядзець відэазварот-прывітанне Івонкі Сурвілы, старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Спадарыня Сурвілла нагадала, што такія Сустрэчы пачалі ладзіцца беларусамі Паўночнай Амерыкі, каб выказаць сваю любоў да паняволенай Бацькаўшчыны і паўтарыць вернасць ідэалам 25 сакавіка. Таксама Старшыня Рады БНР звярнула ўвагу на тое, што неабходна прыцягваць маладую эміграцыю да стваральнай дзейнасці на беларускай ніве і нагадала аб небяспецы з боку расейскага агрэсара, якая ўвесь час застаецца актуальнай для Беларусі.

Зянон Пазняк у сваім аўдыёзвароце расказаў пра ўнутраную і знешнюю акупацыю Беларусі, дзейнасць акупацыйных карных органаў. Ён нагадаў пра лозунг змагання за Беларусь – "Беларусь перадусім" – і пра стварэнне суполак нацыянальна-вызвольнага руху.

Працяг на старонцы 2.

навіны

# У ЗША АДБЫЛАСЯ 34-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

Працяг са старонкі 1.

Пісьмовае прывітанне было даслана кіраўніцтва Супольнасці беларусаў свету "Бацькаўшчына" Алены Макоўскай і Ніны Шыдлоўскай. У сваім лісце яны віталі ўдзельнікаў Сустрэчы, зычылі плённай працы і выказвалі спадзеў на далейшае супрацоўніцтва.

Алена Лявончанка, старшыня Згуртавання беларусаў Канады (ЗБК) у сваёй прамове нагадала, што гэтая Сустрэча беларусаў – юбілейная:

"Першая Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі адбылася ля Ніягарскага вадаспаду на канадскім баку дзякуючы намаганням Вінцэнта Жук-Грышкевіча, аднаго са старшынь БНР. Вельмі цешыць, што гэтая традыцыя ўжо працягваецца 70 год. І самая галоўная каштоўнасць людзей, якія сабраліся на Сустрэчу, – гэта тое, што ім неабыякавая Беларусь. Бо павага і любоў да Беларусі застаецца на ўсё жыццё! І нам усім патрэбна перамога".

Юрась Беленькі, прадстаўнік беларусаў Мінесоты, дэпутат Вярхоўнага Савета XII склікання, нагадаў прысутным, што беларуская дыяспара ў свой час захавала нацыянальныя сімвалы – бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня", якія адрадзіліся на некаторы час, калі Беларусь здабыла незалежнасць. Спадар Беленькі таксама расказаў пра значную ролю дыяспары ў захаванні і аднаўленні самасвядомасці беларусаў.



"У 1991 годзе мне быў 31 год. Бальшыня апазіцыі Беларускага Народнага Фронту тады былі маладыя. Але мы ўжо былі ўзбагачаныя прыкладам трымання сімвалаў нацыянальнага Адраджэння. Бальшыня тагачаснага Вярхоўнага Савету не ведала пра БНР, Вялікае Княства Літоўскае… Людзі на гэтым баку акіяну зрабілі важную рэч, каб адрадзілася незалежная Беларусь. Сёння тыя хто тут, таксама павінны змагацца за Беларусь", – сказаў спадар Беленькі.

Далей прамаўлялі прадстаўнікі маладой беларускай дыяспары, сябры Асацыяцыі Беларусаў Амерыкі (АБА): Жана Чарняўская (*Belarus Freedom Forum*, Суполка Беларусаў Чыкага), Яўген Сокалаў (Беларусы Бостану і Новай Англіі), Піліп Гаўрышаў (стваральнік *INeedHelpBY*, Флорыда), Сяржук Шаліга і Глеб Івашкевіч (*Belarus Freedom*, Філадэльфія), старшыня АБА Надзея Нортан і Наста Хадкевіч (Беларусы Сан-Францыска і Бэй-Эрыі) і іншыя.

"Дзякую ўсім беларускам Амерыкі, якія далучаюцца да беларускага руху. Гэтага б не было без Беларуска-Амерыканскага Задзіночання і Згуртавання беларусаў Канады. Нават свой Статут мы пісалі на аснове і з дазволу BAZA. Для нас важная пераемнасць, сувязь генерацый. Жыве Беларусь!" – падкрэсліла Надзея Нортан.

Сакратар галоўнай Управы BAZA Міхал Чаропка ў сваёй прамове-справаздачы коратка расказаў пра дзейнасць BAZA ў Амерыцы, пра петыцыі ў ААН, распрацоўку важных дакументаў. Таксама ён расказаў пра новы сайт і фармат часопіса "Беларус".



# ВІТАННЕ СУПОЛЬНАСЦІ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ДА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ 34-Й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

Шаноўныя ўдзельнікі 34-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі!

Сардэчна вітаем вас ад імя Супольнасці беларусаў свету "Бацькаўшчына"! Хай вас не бянтэжаць змены ў нашай назве – мы таксама не ўніклі сумнага лёсу, супольнага з сотнямі арганізацый грамадскага сектару Беларусі. Аднак, страціўшы юрыдычную рэгістрацыю ў Беларусі, мы не пакінулі свае галоўныя задачы: яднанне беларусаў у адзіную супольнасць на ніве любові і павагі да нацыянальных каштоўнасцяў, адстойванне незалежнасці нашай маці-краіны.

Сёлетняя Сустрэча – асаблівая. Роўна семдзесят гадоў таму беларусы, што распачыналі жыццё на новай радзіме, у Канадзе і ЗША, зладзілі першы такі сход, які запачаткаваў традыцыю, што выявілася куды больш трывалай за многія іншыя ініцыятывы, рухі і арганізацыі.

На працягу гэтага немалога па чалавечых мерках часу ўдзельнікі Сустрэчаў безліч разоў назіралі за тым, як у Беларусі мяняецца грамадскае і палітычнае жыццё, разам з суродзічамі перажывалі ўздымы нацыянальнага духу, ядналіся для дапамогі сваёй Радзіме ў складаныя для яе часы. Вы аддана захоўвалі вернасць дэмакратычным ідэалам і працавалі шмат дзеля таго, каб Беларусь была незалежнай краінай, каб жыла яе мова і культура. Але бадай што ніколі цягам усіх сямідзесяці гадоў справы на Бацькаўшчыне не выклікалі такой трывогі, як сёння, калі з усёй магчымай сур'ёзнасцю і наступствамі перад беларусамі паўсталі страшныя пытанні пра ўдзел нашай краіны ў вайне і як ніколі рэальную небяспеку знікнення Беларусі з палітычнай мапы свету як суверэннай дзяржавы. Унутры краіны ўжо трэці год запар не спыняюцца палітычныя рэпрэсіі, маштаб якіх можна параўнаць хіба са сталінскімі, калі бязвінных людзей, самых годных, сумленных і адважных, пазбаўляюць працы і волі, падвяргаюць катаванням, выціскаюць за мяжу. Нават пры адсутнасці надзейнай статыстыкі эксперты ацэньваюць эміграцыю за апошні час дзясяткамі, а то і сотнямі тысяч беларусаў.

Людзі з'язджаюць, каб не трапіць у турму, не зазнаць галечы, не стаць ахвярай блізкай вайны. Яны маюць розныя прафесіі і сацыяльны статус, належаць да розных канфесій, маюць розную ступень валодання беларускай мовай, але кожны з іх мае ў сваім сэрцы Беларусь і хоча, каб яна стала паспяховай самастойнай краінай. І таму наша найгалоўная задача сёння – не даць людзям згубіцца, паддаўшыся паняверцы ды апатыі, растварыўшыся ў іншых культурах. Наша супольная задача – знаходзіць як мага болей кропак паразумення паміж тымі, хто даўно па-за Беларуссю, і тымі, хто толькі зазнаў горыч чужыны. Нашая супольная задача – аб'яднаць усе магчымыя высілкі, каб сітуацыя ў Беларусі як мага хутчэй змянілася, тысячы зняволеных выйшлі на волю, а краіна вярнулася ў рэчышча дэмакратычных пераўтварэнняў.

У гэтай навуцы вы – адныя з лепшых. Семдзесят гадоў – неверагодны для грамадскай дзейнасці тэрмін. Адна толькі гэтая лічба яскрава сведчыць пра тое, што ў арганізацыяў, якія прадстаўляюць удзельнікі форуму, усё добра з функцыянаваннем і развіццём, што праца па захаванні нацыянальнай ідэнтычнасці і развіцці беларускай культуры эфектыўная і плённая, а самі Сустрэчы – запатрабаваныя. Мабілізацыйны выбух, паўстанне дзясяткаў новых паўночнаамерыканскіх суполак у апошнія гады і іх арганічнае далучэнне да агульнай справы бачыў кожны. І каштоўнасць вашага досведу, якім вы ў гэтыя дні дзеліцеся з цэлым светам, дзе раз'яднаных беларусаў штохвіліны более, – неацэнная.

Мы шчыра віншуем удзельнікаў сустрэчы з чарговым з'ездам! Зычым вынайсці адказы на пастаўленыя ў тэму Сустрэчы пытанні! Верым, што сцены святога месца, у якім праходзіць высокі форум, гэтаму паспрыяюць, бо за намі праўда!

Жыве Беларусь!

**Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"**

Вядоўца Наталля Федарэнка згадала пра каардынацыйны цэнтр дапамогі беларускім ваярам ва Украіне, які быў утвораны пры кафедральным саборы Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Каардынатар цэнтра Андрусь Дундукоў прапанаваў хвілінай маўчання ўшанаваць памяць 13 загінулых ва Украіне беларускіх ваяроў. Таксама Андрусь расказаў пра маштабы дапамогі беларускім добраахвотнікам, супрацу з беларускімі эміграцыйнымі суполкамі, фінансавыя зборы і закуп абсталявання, лагістычныя ланцужкі. Каардынатар выказаў падзяку паліцыі Нью-Ёрка за дапамогу ў набыцці медычнай дапамогі.

Выступілі таксама Алесь Кот (ЗБК, сябра Рады БНР), Павал Куцавол (*Human Rights Foundation*), Зміцер Левіт (ветэран амерыканскага войска). Гэта былі далёка не ўсе выступы, бо кожны ахвочы мог узяць слова.

Таксама ў сустрэчы ўдзельнічаў старшыня Вашынгтонскага аддзелу БАЗА Яўген Барысевіч.

На Сустрэчы беларусы прадавалі кнігі, сувеніры, цішоткі, зробленыя грошы з якіх пойдуць на падтрымку беларускіх добраахвотнікаў ва Украіне.

Першы дзень 34-ай Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі быў завершаны цудоўным канцэртам. У канцэрце бралі ўдзел ужо згаданы *Kozak Family Ethno Trio* (Валянціна Пархоменка, заслужаная артыстка Беларусі, Алесь Казак, Вольга Казак-Анлар), а таксама Зісл Слеповіч (клезмер-кларнетыст, саксафаніст, спявак на ідыш, кампазітар), Надзя Чэчат (спявачка) і Яўген Магаліф (вядомы беларускі кампазітар). Пад спевы музыкаў можна было і пасумаваць па беларускай долі і весела патанчыць у карагодзе, чым і скарысталіся прысутныя.

Кульмінацыяй канцэртнай часткі быў беларускі перформанс "Чараўніца", у якім 9 прыгажунь дэманстравалі сучасныя беларускія сукенкі, танцавалі і вадзілі карагоды паміж гасцей. Аўтар праекта Юлія Калбыка прыехала адмыслова з Чыкага. Мадэлі – прыгажуні з Нью-Джэрсі ды Філадэльфіі. Падчас перформансу зала напоўнілася цёплынёй, святлом



і неверагоднай жаночай энэргіяй.

Другі дзень Сустрэчы пачаўся з набажэнства ў саборы Св. Жыровіцкае Іконы Божае Маці ў Гайленд-Парку і саборы Св. Еўфрасінні Полацкай ў Саўт-Рыверы. Яны былі прымеркаваныя да 100-годдзя Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У Гайленд-Парку служэнне прайшло пад кіраўніцтвам архіепіскапа БАПЦ Святаслава.

А 14 гадзіне пачаўся круглы стол "Новыя мэты і задачы беларускай дыяспары Паўночнай Амерыкі ва ўмовах акупацыі Беларусі і вайны ва Украіне". На ім былі прынятыя агульныя рашэнні і дакументы, якія будуць накіраваныя да кіраўніцтва ЗША, Канады і ААН.

А ўжо ўвечары, пасля афіцыйнай часткі, удзельнікі працягнулі адпачынак на свежым паветры каля будынку беларускага цэнтра. Бавілі час за сяброўскімі размовамі, смажылі барбекю, гулялі ў валейбол. Адначасна госці мелі магчымасць атрымаць асалоду ад музычнага выступу сямейнага гурта Тацціяны і Валянціна Дзямешчыкаў.

**Алесь Пазняк, bielarus.info**

**рэлігія**

# У ГАЙЛЕНД-ПАРКУ АДБЫЛОСЯ НАБАЖЭНСТВА ДА 100-ГОДДЗЯ БАПЦ

4 верасня ў царкве Св. Жыровіцкае Іконы Божае Маці ў Гайленд-Парку (Нью-Джэрсі) адбылося адзначэнне 100-годдзя Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

Набажэнства ўзначаліў Высокапрывялебны Святаслаў, архіепіскап БАПЦ, які завітаў з Канады ў ЗША на 34-ю Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі.

У Гайленд-Парку сабраліся як парафіяне, так і беларусы, якія прыехалі на Сустрэчу. Архіепіскапу Святаславу саслужылі настаяльнік Парафіі Мітрафорны пратаіерэй айцец Зіновій, пратаіерэй айцец Іван і дыякан Мікола – святарства Кафедральнага сабора БАПЦ у Нью-Ёрку, а таксама святарства Украінскай і Грузінскай цэркваў.

Падчас набажэнства архіепіскап



Святаслаў зачытаў урывак пра маладога чалавека з Евангелля паводле Мацвея, які меў вялікае багацце. Яму Хрыстос адказаў, што "лягчэй вярблюду прайсці праз вушка іголкі, чым багатаму ўвайсці ў Валадарства Божае". "Кожны чалавек можа прысвяціць сябе Богу і ўвайсці ў Валадарства Нябеснае. Галоўнае, каб ён набываў багацце духоўнае. Людзі рэдка задумваюцца пра вечнае жыццё. Усе заклапочаныя зямнымі справамі. Але чалавек павінен знайсці час, калі ён будзе раздумваць над сваім жыццём. І пачне імкнуцца да Бога. Хрыстос прыходзіў, каб чалавек мог быць разам з Богам", – сказаў у прамове архіепіскап Святаслаў.

Уладыка згадаў, што працягваецца свята Успення Божай Маці. Таксама ён заклікаў не спыняцца маліцца за рэпрэсаваных рэжымам беларусаў і правёў такую малітву. Святар нагадаў, што ў Беларусі тысячы людзей пазбаўленыя волі за свае перакананні і пазіцыю.

Пасля Службы адбыўся святочны абед, а таксама збор сродкаў на дапамогу братэрскай Украіне.

Падчас абеду архіепіскап БАПЦ Святаслаў расказаў пра трагічную гісторыю Аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Беларусі. Пасля прамовы людзі звярталіся да яго з пытаннямі і маглі даведацца шмат цікавых фактаў пра БАПЦ.

**Алесь Пазняк, bielarus.info**

**вайна**

# ЯК МОЖНА ДАПАМАГЧЫ УКРАІНЕ

**1. Нацбанк Украіны адкрыў спецыяльны дабрачынны рахунак дапамогі краіне**



**2. Збор сродкаў у Польшчы**



**3. "Беларускі моладзевы хаб" збірае гуманітарку, забірае і размяшчае людзей**



**4. Partyzanka Freeshop збірае гуманітарную дапамогу**



гутарка

# Арганізатары беларускіх танцаў у Тбілісі: традыцыйная культура – добрая падтрымка ў час эміграНцкіх дэпрэсіўных пакут

Сяргей і Марыя Латышавы ўжо даўно займаюцца народнымі танцамі, у тым ліку – іх выкладаннем. Зараз яны разам з маленькім сынам пераехалі ў Грузію, дзе таксама працягваюць ладзіць танцавальныя сустрэчы. "Будзьма!" паразмаўляла з сямейнай парай пра асаблівасці беларускіх танцаў у Тбілісі, важнасць адносінаў партнёраў у пары, і чаму танец – гэта заўсёды пра ментальную блізкасць і хімію.



Марыя і Сяргей знаходзяцца ў Тбілісі амаль чатыры месяцы, тры з іх яны ладзяць заняткі па танцах для мясцовых беларусаў. І нават зараз, калі горад накрыла гарачыня сярэдзіны грузінскага лета, яны працягваюць танцавальны сезон. І цалкам зразумела, чаму – Марыя і Сяргей не ўяўляюць свайго жыцця без танцаў.

Марыя займаецца танцамі ўжо дзесяць гадоў, вялікая частка гэтага часу – менавіта выкладанне. Сяргей зацікавіўся танцавальнымі сустрэчамі ў Верхнім горадзе ў Мінску дзесьці ў 2017 годзе, а пасля панеслася – навучанне ў некалькіх школах танцаў, адточванне рухаў і знаёмства з філасофіяй адносінаў у пары, удзел у спаборніцтвах і першая значная перамога ў рэспубліканскім фестывалі фальклорнага мастацтва "Берагіня".

Марыя і Сяргей кажуць, што кожны дзень сустракаюць у Тбілісі беларусаў, у афіцыйнай суполцы іх каля 3800 чалавек, але па адчуваннях – значна больш. Менавіта таму пара не адмовілася ад свайго ўлюбёнага занятку, нават з'ехаўшы за тысячу кіламетраў ад прывычнага мінскага асяродку.

**– Вы ў Грузіі адносна нядаўна, але ўжо актыўна распачалі дзейнасць па навучанні танцам. Як гэта тэхнічна – арганізаваць заняткі беларускіх народных танцаў у Грузіі?**

**Марыя:** Мы набылі квіток за месяц да пераезду, і падчас чакання ад'езду, яшчэ ў Мінску, дакладна вырашылі, што будзем танцаваць і тут і ладзіць заняткі. Вядома, як прыехалі, было шмат пытанняў: "А што пра нас падумаюць грузіны?", "А калі раптам не прыйдуць беларусы?", і галоўнае пытанне – "Дзе танчыць?". Спачатку разглядалі варыянт адкрытага паветра, але пасля адмовіліся – хацелася свайго прыватнага кола. Глядзелі шмат памяшканняў, і, нарэшце, атрымалася зняць невялікую залю ў мясцовым клубе сальсы. Насамрэч людзей да нас пакуль ходзіць няшмат, і мы спачатку перайmaліся з-за гэтага, а пасля расслабіліся – проста танчым у сваё задавальненне.

**– А чаму вы ўвогуле вырашылі ладзіць танцы ў Тбілісі?**

**Марыя:** Ад самага пачатку тут, у Грузіі, нам было важна паказаць мясцовым беларусам не толькі танцавальныя прыёмчыкі, але і тое, што можна аб'ядноўвацца дзякуючы культурным праектам. І што традыцыйная культура карысная для здароўя – гэта добрая тэрапія і падтрымка ў час эміграНцкіх дэпрэсіўных пакут.

**Сяргей:** Праўда, пакуль мы спрабуем зразумець, чаму тбіліскія беларусы больш любяць глядзець, чым танчыць, а ў Батумі – наадварот. Але гэта, магчыма, з-за таго, што там канцэнтрацыя нашых землякоў на адзін метр нашмат болей, чым тут. І ёсць мора, а яно добра астуджае ў грузінскую гарачыню.

**– То-бок несці беларускую культуру праз танцы цалкам магчыма?**

**Марыя:** Так, відавочна! Мы прыйшлі да яе праз танцы і сталі цікавіцца яе іншымі аспектамі. Праўда, мы пакуль самі на шляху вывучэння беларускай культуры, і гэты шлях доўгі.

**Сяргей:** Але якасны.

**– Якім чынам будуюцца вашыя заняткі?**

**Марыя:** Мы прадумваем урок так, каб ісці ад простага да складанага. Першую частку прысвячаем уласна заняткам і засвойванню асноўных рухаў, а пасля – вучым імправізацыі.

**Сяргей:** І таксама надаем вялікую ўвагу ўзаемадзеянню ў пары, бо гэта – адна з галоўных умоваў добрага танцу. Калі ведаеш базавыя рухі – з астатнім таксама будзе проста, галоўнае зразумець паслядоўнасць. Пры добрым кантакце падчас танцу партнёрцы нават не абавязкова ведаць рухі – калі яна слухае партнёра – станчыць так жа добра, як і тая, якая ўсё ведае.

**– Якія танцы вы танчыце? Ці залежыць рэпертуар ад сезону?**

**Марыя:** Калі глядзець у гістарычнай перспектыве, у пэўных рэгіёнах былі танцы пад канкрэтнае свята, і ў некаторых мясцовасцях нават існавала пэўная забарона на выкананне пэўных скокаў па-за межамі свята. Але гэта адзінкавыя рэчы. Увогуле нейкія табу на танцы – гэта не пра Беларусь. Наадварот, у геаграфічным становішчы, з-за якога ў нас, на жаль, шмат праблемаў, ёсць і плюсы – у нас вельмі багатая народная культура, мы маем і імправізацыйныя, і фігурныя танцы.

На занятках мы танчым вальсы, факстрот, абэрак, розныя варыянты полькі. Большасць з іх беларусы выконвалі на працягу года.

**– Ці танчыце грузінскія танцы і ці запрашаеце на сустрэчы грузінаў?**

**Сяргей:** Мы не так даўно ладзім нашыя танцавальныя сустрэчы, і да грузінаў проста яшчэ не дабраліся – пакуль арыентаваны на падтрымку беларусаў. Але, калі мы ўсё ж часам ладзім танцы на вуліцы, жыхары горада спыняюцца, цікавяцца, да нас далучаюцца грузінскія дзеці.

**Марыя:** Я ў такія моманты думаю, чаму мы не вучым танчыць дзяцей. Але адказ насамрэч просты. Звычайна на вёсцы пачыналі хадзіць на танцы ў тым узросце, калі з'яўлялася цікавасць да супрацьлеглага полу.

Народныя танцы ўсё ж такі крыху пра секс і пра стасункі дарослых людзей.

**– А чаму ўвогуле менавіта танцы? Вы выбралі танцы, ці яны выбралі вас?**

**Марыя:** У юнацтве я была ўдзельніцай рыцарскага клуба, і танцы – адна з актыўнасцей, якая мне вельмі падабалася. На сярэднявечных фестывалях мне хацелася паказваць не толькі строі, але і танцы. Калі падабаецца мелодыя – хочацца ў такт ножкай дзёргаць, ручкай. І апынулася, што я магу не толькі атрымліваць асалоду ад музыкі, але і рабіць

простыя рухі.

**Сяргей:** А я вырашыў пайсці на танцы, бо там былі жанчыны. Народныя танцы сапраўды шмат у чым пра секс, асабліва ў традыцыйным жыцці, калі хлопец мог дакрануцца да дзяўчыны толькі ў танцы. Так і я – на той момант меў праблемы ў мінулых адносінах і проста шукаў кантакту з жанчынай. Праўда, пасля зразумеў, што ў танцы галоўныя не фізічныя дотыкі, але ментальная блізкасць, кантакт. І ён цягнецца, пакуль грае музыка. Ты чалавека, можа, ніколі не бачыў, але вось вы сталі ў пару, і адчуваеш – ён вельмі блізкі, ты яго разумееш праз кантакт з целам, як ён рэагуе на тое, як ты вядзеш, як ты рэагуеш у адказ. І калі я бліжэй пазнаёміўся з традыцыйнай культурай – захацелася ёй займацца асэнсавана. А пасля я пазнаёміўся з Марыяй, і вось мы разам, у нас дзіцё бегае. Мэта выканана.

**Марыя:** Для чалавека, які не займаецца танцамі, гэта можа гучаць як магія, але не. Гэта хутчэй нагадвае гульню – як шчанюкі між сабой боруцца – гэта пра драйв і радасць. Звычайна гэта здараецца, калі людзі адпускаюць свае чаканні ад выгляду сябе ў танцы, пачынаюць весяліцца. І вось калі гэтую энергію ўнутры хоць раз адчуеш – хочацца паўтарыць. Гэта як наркотык.

**Сяргей:** Так. І гэтыя ўсе эндарфіны шчасця вылазяць і б'юць у галаву. Я па адукацыі хімік, і дакладна магу сказаць – хімія тут працуе добра.

**– Ці можаце вы назваць сябе прафесійнымі танцорамі?**

**Сяргей:** Мы не прафесійныя танцоры, бо не маем адпаведнай адукацыі – мы, так бы мовіць, побытавыя танцоры. Наша прафесійнасць складаецца ў тым, што нас з Марыяй навучылі не толькі правільным рухам, але і таму, як дзейнічаць у пары.

**Марыя:** Тут хутчэй размова пра майстэрства, і гэтага мы дакладна дасягнулі. Бо для нас танец ужо не мэта, але лад жыцця.

**– Пытанне да вас як да вопытных танцораў: колькі трэба станчыць танцаў, каб ужо дакладна разумець – вечарына адбылася.**

**Марыя:** Аднойчы я была на танцах, дзе музыка за гадзіну сыграў тры танцы – кожны па 20 хвілін. Таму тут па-рознаму, справа ў выніку – як ты сябе адчуваеш.

**Сяргей:** Ёсць такое адчуванне – натанцаваўся. З добрай партнёркай мне часам хапае 3–4 танцы, пасля я задаволены магу сядзець і назіраць, як другія танчаць, які ў каго фішачкі. Калі ноч танцаў, і ўсе скачуць з 8 вечара да 6 ранку – гэта таксама нармальна.

І працягну тэму сексу – пасля сексу не танцуецца, пасля танцаў не хочацца сексу. Прынамсі, гэта ў мужчын, у жанчын, падаецца, наадварот.

**– Якія, па вашым меркаванні, галоўныя нагоды, каб займацца народнымі танцамі?**

**Сяргей:** Танец – гэта маленькае жыццё і моцныя пачуцці. Ёсць анекдот – мы сталі ў пару, я паглядзела яму ў вочы, абняліся, я ўжо павяла дзяцей у сад – і тут танец скончыўся. Увесь наш арганізм – хімія. Эмацыйны фон падчас танцу можна параўнаць з тымі ж адчуваннямі, што і закахацца, лічы – такая легальная магчымасць здрады на некалькі хвілін. А пасля танец сканчваецца, і з ім – пачуцці партнёраў.

**Марыя:** Танцы – не столькі для прафесіяналаў, колькі пра звычайных людзей. Нашыя продкі не мелі спецыяльнай адукацыі, вучыліся зборшага адзін у аднога. На жаль, мы адарваныя ад традыцыі, вучыліся не ў сваіх родных – у старэйшых братоў, сясцёр, бацькоў, але ў настаўнікаў, таму прайшлі праз перыяд скаванасці і сумніваў. Вядома, любыя танцы патрабуюць пэўнага фізічнага стану, але гэта ўсё практыкуецца. І тое, што цела адразу не слухаецца напачатку – так бывае ва ўсіх. Але затое, калі вывучыш асноўныя рухі і пасля зловіш драйв – вельмі хораша.

І яшчэ танцы – гэта вельмі класная тэрапія. Можа, яна і не працуе з першага разу, але эфект дакладна будзе. Калі танцуеш хуткі танец – агрэсіўныя эмоцыі выходзяць вельмі хутка, нібы ў душ схадзіў ці ў моры выкупаўся. І тое ж самае пра добрыя эмоцыі, але гэта іншая таямніца.

Агулам разумею, чаму часам чалавеку складана далучацца. Але, у той жа час, вельмі хацелася б, каб людзі паспрабавалі. Дакладна будуць тыя, хто баяўся, паспрабаваў і зразумеў, што гэта не страшна, але кайфова, і застаўся.

Запісацца на беларускія народныя танцы ў Тбілісі можна на старонцы ў Фэйсбуку: Беларускія танцы ў Тбілісі / Belarusian dances in Tbilisi

Аляксандра Дварэцкая, budzma.org

навіны

# КАЛЕКЦЫЮ АЎТЭНТЫЧНЫХ СТРОЯЎ БЕЛАРУСКІ ВОЛІ ДЗЕМКІ ПАКАЖУЦЬ НА METROPOLITAN FASHION WEEK У ЛОС-АНДЖЭЛЕСЕ

Спявачка, кінавытворца і прадзюсарка Воля Дземка, якая жыве ў Сіэтле (ЗША), рупліва збірае і рэстаўруе аўтэнтычныя беларускія строі, а з нядаўняга часу Воля збірае яшчэ і ўкраінскія аўтэнтычныя строі. Украінская частка калекцыі этнічных касцюмаў *Volya* будзе паказана на *Metropolitan Fashion Week* у Сіэтле 24 верасня, а 1 кастрычніка – у Лос-Анджэлесе.

Сёлета мерапрыемствы ў межах *Metropolitan Fashion Week* ладзяцца ў падтрымку некамерцыйнай арганізацыі *You Are The Angel*, якая займаецца забеспячэннем харчавання, медыкаментаў і псіхасацыяльнай падтрымкі ахвярам вайны ва Украіне.

Гэтай навіной Воля Дземка падзялілася на сваёй старонцы ў Фэйсбуку. Зараз Воля шукае мадэляў для ўдзелу ў паказе.

“Нам трэба будзе самастойна падрыхтаваць частку шоу ў Сіэтле (касцюмы занадта складаныя, каб мяняць іх паміж дэманстрацыямі), таму зараз мы шукаем цудоўных мадэляў (5’8"-5’11"), якія захочуць прадэманстраваць нашы аўтэнтычныя ўкраінскія строі 19-га стагоддзя і дапамагчы нам дапамагчы людзям, якія маюць у гэтым патрэбу, 24 верасня 2022 года”, – напісала Воля.

*Metropolitan Fashion Week* – адзін з самых перспектыўных тыдняў моды ў Злучаных Штатах з паказамі ў Сіэтле, Лос-Анджэлесе, Лас-Вегасе, Палм-Спрынгс і неўзабаве ў Нью-Ёрку і Маямі. Асаблівасць *Metropolitan Fashion Week* у тым, што паказы праходзяць у нетрадыцыйных месцах, дзе дэманструюцца не толькі мадэльеры і дызайнеры касцюмаў, але і самыя прыгожыя месцы, якімі можа прывабіць кожны горад. *Metropolitan Fashion Week* прадставіць больш за 750 твораў мастацтва, створаных міжнароднымі дызайнерамі моды і




касцюмаў, якія з’яўляюцца арыгінальнымі і “адзінымі ў сваім родзе”.

Сёлета *Metropolitan Fashion Week* святкуе сваё 10-ці годдзе.

Воля Дземка і яе фальклорны гурт *Volya* стварылі найбуйнейшую калекцыю беларускіх строяў у свеце па-за межамі Беларусі. На падставе гэтай калекцыі нядаўна быў выдадзены альбом, у якім прадстаўлена беларускае святочнае адзенне канца XIX – пачатку XX стагоддзя па рэгіёнах.

budzma.org

навіны

# БЕЛАРУСЫ АЖЫВІЛІ ГІСТАРЫЧНЫ КОМІКС – У ІМ ЯГАЙЛА ЧЫТАЕ РЭП

Ажывіць гісторыю пра падпісанне Крэўскай уніі творчы калектыў "Дыяфільм live" натхніў комікс "Вядзьмедзева вунія", які пабачыў свет у 2020 годзе. Гістарычны анекдот на гэтую тэму ў вершаванай форме выклаў Уладзімір Някляеў, а ілюстравала яго Кацярына Марціновіч. Цяпер малюнкі пераклалі на стужку, а вершы агучылі і паклалі на біт.




"Дыяфільм live" аб'ядноўвае актораў, музыкантаў, якія інтэрпрэтуюць казкі і цікавыя гісторыі, агучваюць іх і граюць адначасова з паказам дыяфільма.

"Гэта гісторыя добра кладзецца на хіп-хоп" – Гэты дыяфільм пра падпісанне Крэўскай уніі мы планавалі паказаць на фестывалі ля сцен Крэўскага замка (фэст-майстэрня Kreva Create планаваўся ў жніўні 2020 года – рэд.). Але праз акалічнасці ўсё адклалася на нявызначаны час, – расказвае Наталля Леванава, рэжысёрка і артыстка беларускай творчай студыі "Дыяфільм live".

– Такога мы яшчэ не чулі: Ягайла, рэальная гістарычная асоба, у вашым дыяфільме чытае рэп!

– Хіп-хоп, калі ён узнік недзе ў Амерыцы, асацыяваўся з вулічнымі разборкамі. Гэта жанр, які перадае напружаную атмасферу, падымае вострасацыяльныя тэмы. Падпісанне Крэўскай уніі ў 1385 годзе таксама было напружанай сітуацыяй. Хтосьці кагосьці запрасіў, у замку закрыў, задушыў... Гэта былі смутныя, жорсткія часы. З гэтым і звязаны наш выбар музыкі. Нам падаецца, яна вельмі падыходзіць, – тлумачыць рэжысёрка.

Дарэчы, Наталля прызнаецца, што творчая каманда "Дыяфільм live" насамрэч шмат эксперыментавала з музыкальным суправаджэннем. Планавалі выкарыстоўваць дуду, бубен, народны вакал – хацелі дадаць як мага больш аўтэнтыкі. Але не склалася: фестываль адмяніўся, частка музыкаў з'ехала за мяжу.

– Спачатку хіп-хоп ішоў разам з этна-музыкай. Цяпер мы пакінулі толькі біт. Нам падалося, што ў тым выглядзе, як мы планавалі, дыяфільм больш не гучыць. Народныя інструменты і асабліва дуда – яны для вуліцы. На дудзе немагчыма граць ціха. Яна дае гучны звук, які далёка ляціць. У запісы або ў невялікім памяшканні гледачу яе цяжка ўспрымаць. Да таго ж, музыкам цяжка працаваць на адлегласці. Праца анлайн унесла свае папраўкі, – кажа Наталля.

### Як размяркоўвалі ролі

– У гэтым коміксе ўсе героі – мужчыны. Брутальныя былі часы... Але за некаторых персанажаў чытае наша Алена Гіранок. Мы шмат думалі: ці не трэба ўзяць яшчэ аднаго актора. Але вырашылі, што не будзем, – дадае рэжысёрка.

Алена агучыла Скіргайлу і выдатна з гэтым справілася – скарысталася сваім акторскім досведам. Яна грала жонку паэта ў фільме "Купала", а таксама некалькі гадоў агучвала Бусліка ў "Калыханцы".

За Ягайлу прамаўляе Аляксандр Яфрэмаў.

– Саша таксама прафесійны актор, ён шмат граў у тэатры і кіно. І роля Ягайлы стала для яго адной з самых складаных! Тут трэба было не пераўвасобіцца ў персанажа, як у драматычным тэатры, але блізка да рэальнасці перадаць сітуацыю, у якой ён апынуўся. І не заўсёды было зразумела, чаму Ягайла рэагуе менавіта так, чаму так адказвае. Комікс – гэта не дакладны пераклад гісторыі, тут ёсць і мастацкая выдумка. І актору трэба было самому вылепіць вобраз Ягайлы, – расказвае Наталля Леванава.

### Першы публічны паказ зладзілі ў Варшаве

Праз усе абставіны праца над дыяфільмам пра Крэва расцягнулася амаль на два гады. Урэшце артысты сустрэліся ў адной кропцы планеты і дарабілі праект. Яго працоўную версію прэзентавалі гэтым летам у Варшаве ў межах арт-рэзідэнцыі "Дом творцаў". Пасля паказу гледачы маглі даць артыстам зваротную сувязь.

– Некаторыя сказалі, што ім хочацца больш прачытаць пра Крэўскую унію, паглыбіцца ў гісторыю. Канечне, нам яшчэ ёсць, што дапрацаваць, але мы хацелі, каб дыяфільм дайшоў да аўдыторыі – і мы гэта зрабілі. Цяпер будзем думаць, у якім выглядзе даць яму жыццё: можа, зрабіць аўдыёзапіс і накласці на карцінкі... Спадзяюся, дыяфільм будзе запатрабаваным! – выказвае спадзеў Наталля. Таксама творчая група гатова да гастроляў і чакае прапаноў на камерныя паказы для беларусаў і замежнікаў, на фестывалі і паўсюль, дзе ёсць людзі, якім было б цікава паглядзець на ажылыя падзеі 1385 года і Ягайлу, які чытае рэп.

**kreva.travel**

# ГАЛІВУД ХОЧА ЗНЯЦЬ СЕРЫЯЛ ПА КНІЗЕ АЛЕКСІЕВІЧ "У ВАЙНЫ НЕ ЖАНОЧАЕ АБЛІЧЧА"

Як напісаў у Facebook выдавец кніг пісьменніцы Барыс Пастарнак, ужо падпісаная дамова аб здымках серыялу. Ён дадаў, што пасля поспеху серыялу "Чарнобыль" ад амерыканскай стрымінгавай кампаніі HBO, шмат у чым заснаванага на кнізе Алексіевіч "Чарнобыльская малітва", за правы на новы серыял разгарнулася міжнародная канкурэнцыя.



Сама Святлана Алексіевіч пацвердзіла, што некалькі буйных галівудскіх студый сапраўды праявілі цікавасць да здымкаў, а ў адной з роляў планавалася задзейнічаць Анджаліну Джалі. Аб сцэнары пакуль нічога не вядома – сама аўтарка не бярэ ўдзелу ў яго напісанні.

Аднак з пачаткам вайны ва Украіне, паводле слоў Алексіевіч, праект паставілі на паўзу, і, хоць пра яго адмену гаворкі не ідзе, будучыня серыялу пакуль застаецца незразумелай. Пісьменніца выказала спадзеў, што ў далейшым усё складзецца "гэтак жа добра, як пачыналася" – улічваючы, што аповесць пра жанчын на вайне зараз набывае новую актуальнасць.

**novychas.online**

навіны

# РАМАН АЛЬГЕРДА БАХАРЭВІЧА “САРОКА НА ШЫБЕНІЦЫ” ТРАПІЎ У ШОРТ-ЛІСТ ПРЭСТЫЖНАЙ ПОЛЬСКАЙ ПРЭМІІ ANGELUS

У чэрвені журы абрала 14 кніг са 100 ў доўгі спіс, там быў і раман Андрэя Адамовіча “Песня пра Цімура”. Кароткі спіс прэміі Angelus – гэта 7 кніг, у якіх, на думку журы, спалучаюцца “шырока асэнсаваная цэнтральнаеўрапейскасць, перапрацоўка траўм, характэрных для нашага рэгіёну, а таксама нацыянальна-культурная невідавочнасць”.

Раней намінантамі на цэнтральнаэўрапейскую літатурную прэмію былі беларусы Ігар Бабкоў (у 2009 годзе) і Уладзімір Някляеў (у 2016-м). А ў 2011-м годзе Святлана Алексіевіч стала пераможцай прэміі з кнігай “У вайны не жаночае аблічча”.

Angelus з’яўляецца самай высокааплатнай літаратурнай прэміяй у Польшчы – аўтар узнагароднай кнігі атрымае 150 тысяч злотых (каля 30 тысяч еўра).

Пераможца гэтага году будзе абвешчаны 15 кастрычніка ва Уроцлаве.

novychas.online




# БЕЛАРУСАМ ПРАПАНАВАЛІ СТАЦЬ “ЛІЧБАВЫМІ КАЧЭЎНІКАМІ”

Беларускія айцішнікі змогуць працаваць у Кыргызстане без рэгістрацыі.

Кыргызстан дазволіў айцішнікам з Беларусі і яшчэ некалькіх краін постсавецкай прасторы працаваць без рэгістрацыі і дазволаў. Гэта прадугледжана праектам “Лічбавы качэўнік” (Digital nomad), піша devby.io.

Такім чынам Кыргызстан хоча павялічыць прыток рэлакантаў, якія працуюць у сферы лічбавых тэхналогій.

Для айцішнікаў улады Кыргызстана распрацавалі спецыяльны гайд – пакрокавую інструкцыю, як атрымаць статус “лічбавага качэўніка”.

Хто можа стаць “лічбавым качэўнікам”? Беларусы, якія ажыццяўляюць дзейнасць у сферах рас-



працоўкі праграмнага забеспячэння (ПЗ), экспарту інфармацыйных тэхналогій, інфармацыйных сістэм і ПЗ, праграмавання, распрацоўкі IT-прадуктаў, робататэхнікі і штучнага інтэлекту, стварэння камп’ютарных і мабільных гульняў, кіберспорту, медыямастацтва, у тым ліку лічбавага мастацтва, стварэння віртуальнай і дапоўненай рэальнасці, змяшанай рэальнасці, 3D-дызайну, анімацыі, графічнага дызайну, дызайну мультымедыя ды іншых блізкіх галін.

Уладальнік статусу “лічбавы качэўнік” вызваляецца ад рэгістрацыі па месцы пражывання на тэрыторыі Кыргызстана, атрымлівае дазвол на працу да 12 месяцаў з магчымасцю прадаўжэння да аднаго года. “Качэўнік” можа працаваць у якасці ІП і юрыдычнай асобы, мае права адкрываць і карыстацца рахункамі ў банках Кыргызстана без абавязковай рэгістрацыі па месцы пражывання.

Айцішнікі са статусам “лічбавы качэўнік” атрымаюць электронны дакумент, які мае спецыяльны QR-код. Сваякі такіх спецыялістаў таксама маюць права атрымаць дакументы для ўезду і знаходжання ў Кыргызстане.

novychas.online паводле devby.io

# ХТО БУДЗЕ ПРАЦАВАЦЬ? ЗВАЛЬНЯЮЦЦА І З’ЯЗДЖАЮЦЬ НЕ ТОЛЬКІ “АЙЦІШНІКІ”

У Беларусі ў ліпені зноў скарацілася занятасць насельніцтва. Паводле інфармацыі Белстата, у эканоміцы краіны ў ліпені было занята 4,1972 млн чалавек. Гэта на 9,6 тысяч менш, чым колькасць занятых, пра якія статыстычны камітэт паведамляў у чэрвені.

Усяго з пачатку года было звольнена 401,5 тысяч чалавек, што на 17% больш (58,5 тысяч чалавек), чым колькасць прынятых на працу ў студзені-ліпені. У параўнанні з сямю месяцамі мінулага года колькасць звальненняў скарацілася на 2,9%, а працаўладкаванняў – на 5,9%.

Найбольшы разрыў паміж звальненнямі і працаўладкаваннямі захоўваецца ў IT-сектары. Паводле звестак Белстату, у ліпені па тыпе дзейнасці “інфармацыйныя тэхналогіі і дзейнасць у галіне інфармацыйнага абслугоўвання” было прынята на працу 939 чалавек, што на чатыры менш, чым у чэрвені. У той жа час за ліпень звольнілі 3034 чалавек.

Адток “айцішнікаў” з пачатку года дасягнуў ужо 10 тысяч чалавек. За студзень-ліпень было звольнена 18 873 чалавекі, а прынята на працу 8549 чалавек. Колькасць звальненняў вырасла на



95,1%, у той час як наём скараціўся на 20%.

Не лепшая сітуацыя з медыкамі. Ахова здароўя пазбавілася 6 тысяч работнікаў. Былі звольненыя 26,1 тысяч чалавек, а прынята на працу 20,14 тысяч

У будаўніцтве прынялі на працу 20,97 тысяч чалавек, а звольнілі 28,36 тысяч.

У аптовым і рознічным гандлі, рамонце аўтамабіляў і матацыклаў таксама колькасць звольненых за сем месяцаў перавышае колькасць прынятых на працу амаль на 7 тысяч чалавек. Усяго было звольнена без малога 64,3 тысячы работнікаў.

У апрацоўчай прамысловасці ў студзені-ліпені звольнілі 68,1 тысяч чалавек, пры гэтым змаглі прыняць на працу 61,27 тысяч

У транспарце і лагістыцы страцілі працу 20,84 тысяч чалавек, былі прынятыя толькі 15,04 тысяч чалавек.

Адмоўны баланс адзначаецца нават у дзяржаўным кіраванні. Па гэтым тыпе дзейнасці за сем месяцаў звольнілі 5066 чалавек, а прынялі на працу 4666.

Станоўчы баланс з працоўнымі назіраецца толькі ў дзвюх сферах. У сельскай лясной і рыбнай гаспадарцы за сем месяцаў прынялі на працу 52,75 тысяч чалавек, а звольнілі 48,34 тысяч. Станоўчы баланс адзначаўся ў дзейнасці ў сферы адміністрацыйных і дапаможных паслуг.

novychas.info паводле reform.by



навіны

# ЖУРНАЛІСТКА МАРЫЯ ГРЫЦ ЗРАБІЛА БЧБ-СЦЯГ, У ЯКІМ ІМЁНЫ 588 ЖАНЧЫН

На сцягу можна пабачыць імёны палітзняволеных беларускіх журналістак, выкладчыц, дзеячак сферы культуры.

“Два гады таму мы выйшлі, каб спыніць гвалт. Натхнёныя, спужаныя і ап’янелыя ад таго, як нас шмат, мы не маглі нацешыцца тым першым маршам. Потым былі іншыя, пра неймаверных беларускіх жанчын пісаў і казаў увесь свет.

Сёння пра беларускіх жанчын гавораць непамерна меней, але хіба яны самі змяніліся? На сёння з крымінальным пераследам сутыкнуліся не меней за 588 жанчын – і гэта толькі тыя, пра каго вядома праваабаронцам. Іх жыццё часова скрадзенае “судовымі выракамі, але іх імёны не забытыя. Вось яны, так шмат, што хапіла на яшчэ адзін сцяг” – дзеліцца Марыя.

Творчай акцыяй журналістка хоча падтрымаць зняволяных і нагадаць грамадству пра салідарнасць.

budzma.org паводле baj.by

# ПРАХ ПАЭТА ІГАРА ШКЛЯРЭЎСКАГА ПАХАВАНЫ Ў МАГІЛЁВЕ

Запаветам творцы было пахаваць яго каля бацькоў, на Машэкаўскіх могілках у Магілёве. 14 жніўня апошнюю волю паэта выканалі яго найбліжэйшыя сваякі – брат Алег з дачкой Марыяй, паведамляе тэлеграм-канал “Суполка беларускіх пісьменнікаў”.

Паэт нарадзіўся 25 чэрвеня 1938 года ў сям’і настаўнікаў.

Навучаўся ў Магілёўскім педагагічным інстытуце, працаваў у рэспубліканскай дзіцячай газеце “Зорка”, затым скончыў у 1965 годзе Літаратурны інстытут імя Горкага. Сябар Саюза пісьменнікаў СССР з 1964 года.

Яшчэ ў час вучобы, у 1962 годзе, выпусціў у Мінску свой першы зборнік вершаў “Я іду!”. Ранейшае выданне падрыхтаванага да друку зборніка было спынена, бо кніга была аб’яўлена “ідэйна заганнай”. У выніку зборнік выйшаў з купюрамі.

Ужо ў 1964 годзе ў Мінску выйшаў другі зборнік Шклярэўскага “Лодка”, і, як папярэдняя кніга, атрымала добрыя водгукі. Талент паэта адзначыў Барыс Слуцкі, які прысвяціў выхаду зборніка артыкул “Лодка, якая плыве далёка”.

Перакладаў са славянскіх моў. У 1979 апублікаваў пераклад “Слова пра паход Ігараў”, высока ацэнены найбуйнейшым спецыялістам па старажытнарускай літаратуры Дзмітрыем Ліхачовым.

Ігар Шклярэўскі памёр 7 верасня 2021 года ў Маскве ад наступстваў каранавіруса.

budzma.org



## Беларускі каляндар памятных дат на верасень 2022 года

**3 верасня**
- 95 гадоў таму, у 1927-м, нарадзіўся Алесь Адамовіч, пісьменнік. Памёр у 1994-м.

**4 верасня**
- 105 гадоў таму, у 1917-м, у Слуцку пачаліся заняткі ў першай беларускай гімназіі.
- 30 гадоў таму, у 1992-м, памёр Сяргей Хмара (сапр. Сіняк), пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе.
- 25 гадоў таму, у 1997-м, памёр Міхась Раманюк, мастак, этнограф.

**5 верасня**
- 105 гадоў таму, у 1917-м, нарадзіўся Язэп Сажыч, дзеяч эміграцыі ў ЗША, старшыня рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1982–1997). Памёр у 2007-м.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Анатоль Дзяркач (сапр. Зіменка), паэт.

**7 верасня**
- 190 гадоў таму, у 1832-м, нарадзіўся Людвік Нарбут, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Загінуў у 1863-м.

**14 верасня**
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Сяргей Астрэйка, паэт.

**15 верасня**
- 25 гадоў таму, у 1997-м, памёр Рудольф Пастухоў, пісьменнік.

**17 верасня**
- 110 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Максім Танк (сапр. Яўген Скурко), паэт, акадэмік. Памёр у 1995-м.
- 100 гадоў таму, у 1922-м, нарадзіўся Уладзімір Калеснік, пісьменнік. Памёр у 1994-м.

**18 верасня**
- 30 гадоў таму, у 1992-м, памёр Ян Скрыган, пісьменнік.

**19 верасня**
- 225 гадоў таму, у 1797-м, нарадзіўся Януар Сухадольскі, мастак. Памёр у 1875-м.

**22 верасня**
- 105 гадоў таму, у 1917-м, памёр Ігнат Буйніцкі, рэжысёр.

**23 верасня**
- 120 гадоў таму, у 1902-м, памёр Эдмунд Вярыга, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

**24 верасня**
- 120 гадоў таму, у 1902-м, нарадзіўся Аляксандр Махноўскі, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у 1967-м.

**26 верасня**
- 20 гадоў таму, у 2002-м, памёр Аляксандр Шыдлоўскі, кампазітар.

**27 верасня**
- 25 гадоў таму, у 1997-м, у Спаса-Ефрасінеўскі манастыр перанесены вобраз Крыжа Сятой Ефрасінні Полацкай.

**28 верасня**
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Уладзіслаў Галубок, пісьменнік, рэжысёр.

**29 верасня**
- 40 гадоў таму, у 1982-м, памёр Дзмітрый Сямёнаў, літаратар, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**30 верасня**
- 130 гадоў таму, у 1892-м, нарадзілася Зоська Верас (сапр. Людвіка Сівіцкая, па мужу Войцікава), пісьменніца. Памерла ў 1991-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 8 (243), жнівень 2022
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com